■ В исполкоме областного Совета

# КАКОЙ ЖЕ РЫНОК БЕЗ ТОВАРА

***На очередном заседании исполкома областного Совета депутатов обсуждены проблемы насыщения потребительского рынка товарами и улучшения торгового обслуживания населения, а также ход выполнения плана по развитию производства непродовольственных товаров.***

Отмечалось, что горрайисполкомы, Национальный и коммерческий банки, управление торговли, предприятия и ведомства, имеющие торговую сеть, недооценивают роль и значение торговли в насыщении рынка области товарами народного потребления, стабильности товарно-денежных отношений. Имеют место многочисленные факты перебоев в продаже товаров первой необходимости.

Установленный горрайисполкомами режим работы многих предприятий торговли и общественного питания не удобен для покупателей. Наблюдается сокращение продолжительности работы предприятий сферы обслуживания, закрытие их на два выходных дня. Свертываются самообслуживание, специализация и другие прогрессивные формы торговли. Неэффективно используются площади.

Сеть фирменных магазинов не отвечает предъявляемым требованиям в деле обеспечения образцовой торговли, изучения спроса, воздействия на промышленность по производству необходимого ассортимента и улучшению качества товаров. Многие из них используются для обеспечения своих работников производимыми или закупаемыми товарами в ущерб интересам других покупателей.

В ряде городов и районов области не принято должных мер к выполнению постановления Совета Министров Республики Беларусь от 2 июля 1993 г. №428 "Об упорядочении торговли водкой и другими спиртными напитками в Республике Беларусь", не соблюдаются правила их продажи, что приводит к алкоголизации населения, особенно несовершеннолетних.

Предоставленные исполкомам местных Советов права и возможность лицензирования торговой деятельности недостаточно используются ими для наведения порядка в работе торговых предприятий. В результате растет число злоупотреблений, нарушений, низка культура обслуживания. Все это приводит к справедливым жалобам со стороны граждан.

Утверждены мероприятия по насыщению потребительского рынка товарами. В частности, предусматривается поставка продукции торговым предприятиям без предварительной оплаты.

Производство непродовольственных товаров в общем объеме товаров народного потребления области занимает 36%, в объеме Республики Беларусь — около 10%. За январь-август текущего года темп роста по непродовольственным товарам составил 96,9%, что на 8,17 пункта больше января-июля текущего года, в том числе по группе товаров легкой промышленности — 59,9, или на 6 пунктов больше темпа за семь месяцев.

Товары для детей в области производят 14 предприятий республиканской собственности и 11 предприятий коммунальной собственности. В ассортименте преобладает продукция швейной промышленности для детей — около 25% от общего объема швейных изделий.

В процессе работы по реализации конверсионных программ и их финансовой поддержке освоено и продолжается освоение технически сложной продукции гражданского назначения в борисовском ПО "Экран" — 16 наименований, на молодечненском радиозаводе "Спутник" — 11 видов средств связи и 2 видов радиоаппаратуры. В плане производства молодечненского ПО "Электромодуль" на 1994 год заложено освоение более 30 видов новой продукции гражданского назначения, на заводе "Спутник" ведется подготовка к производству радиотелефонов, освоен выпуск радиоудлинителей телефонных линий, автомагнитол и других видов изделий.

В целях обеспечения предприятий области неткаными материалами, создания дополнительных рабочих мест для Солигорска концерном "Беллегпром" совместно с ПО "Беларуськалий" и ассоциацией "Ахинтем" (Российская Федерация) создано совместное предприятие по выпуску 9 млн. кв. м нетканых материалов в год на реконструируемых площадях производственного объединения "Беларуськалий".

Концерном "Промышленник" в перспективе к 1997 году планируется выпуск 198 тыс. штук трикотажных изделий с сохранением удельного веса изделий детского ассортимента.

В 1994 году на молодечненском радиозаводе "Спутник" начат выпуск автомагнитол РМ-30ICA для легковых автомобилей ВАЗ-2104... ВАЗ-2109.

Молодечненской фабрикой музыкальных инструментов освоен выпуск шезлонгов и наборов складной мебели "Автотурист", но в связи с отказом торгующих организаций от поставки данных видов продукции выпуск их прекращен. Детские качели предприятием не были освоены, так как заявок на их поставку от торговых организаций также не поступало.

Производственным объединением "Экран" освоены и серийно выпускаются для различных нужд жидкокристаллические индикаторы. Ведутся опытно-конструкторские работы по псевдоцветному индикатору и матричному экрану. Планируется начать их серийное производство в I-м квартале 1995 года.

На предприятиях машиностроительного комплекса и бывших отраслей оборонной промышленности из-за недопоставки комплектующих изделий снизилось производство некоторых традиционных для этих предприятий видов товаров: электрофенов, фотоаппаратов, радиоприемных устройств, электрокипятильников, электромиксеров и других.

Исполком областного Совета депутатов РЕШИЛ:

1. Концерну "Промышленник" (Метельский А.И.) разработать целевую программу на 1995—1997 годы по увеличению объемов производства и расширению ассортимента трикотажных и швейных изделий, при этом особое внимание уделить изделиям для детей.

2. Управлению торговли (Гукайло В.Ф.), облпотребсоюзу (Боровой Е.П.) произвести заказ на Молодечненской фабрике музыкальных инструментов на поставку в торговую сеть области наборов мебели "Автотурист", детских качелей, шезлонгов, кемпинговой мебели и других товаров.

3. Просить концерн "Беллегпром" ускорить выделение валютных средств Борисовскому заводу пластмассовых изделий для приобретения оборудования по производству колодок и деталей низа обуви.

4. Комитету экономики (Подгурский Л.Ф.), финансовому управлению (Зайцев П.К.) ежегодно при разработке программы экономического развития и формирования бюджета предусматривать средства на частичное финансирование проектов развития производства важнейших видов товаров народного потребления.

5. Рекомендовать управлению торговли (Гукайло В.Ф.), облпотребсоюзу (Боровой Е.П.) совместно с исполкомами местных Советов депутатов проработать вопрос о передаче в установленном порядке предприятиям, производящим товары народного потребления, ряда магазинов.

6. Управлению внешнеэкономических связей, развития предпринимательства и конкуренции (Бургун В.И.) совместно с комитетами, управлениями и отделами облисполкома, учитывая сложность экономического положения области, трудности в оценке тенденции его изменения в условиях либерализации цен, наличие проблем с материально-техническим обеспечением и в кредитно-денежных отношениях, систематически анализировать состояние производства с учетом постановления Совета Министров Республики Беларусь от 21 апреля 1994 года №268 "О развитии и мерах государственной поддержки производства важнейших видов непродовольственных товаров народного потребления в 1994—1997 годах".

Рекомендовать аналогичную работу проводить исполкомам местных Советов депутатов.

7. Управлению торговли (Гукайло В.Ф.), облпотребсоюзу (Боровой Е.П.) производить оплату предприятиям концерна "Промышленник" за поставленную продукцию в течение 5—7 банковских дней.

8. Контроль за выполнением настоящего решения возложить на управление внешнеэкономических связей, развития предпринимательства и конкуренции (Бургун В.И.).

■ Дзень рэспублікі

## КРОК ДА МІЖНАРОДНАГА ПРЫЗНАННЯ

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прыняты ў састаў Савета канстытуцыйных судоў Еўропы ў якасці асацыіраванага члена. За гэтае рашэнне члены савета галасавалі аднагалосна.

Аб гэтым карэспандэнту Белінфарма паведаміў суддзя Канстытуцыйнага суда Беларусі Міхаіл Пастухоў, які вярнуўся з Будапешта, дзе ён удзельнічаў у рабоце падрыхтоўчай нарады да дзесятай канферэнцыі еўрапейскіх канстытуцыйных судоў.

Уступленне ў такое аўтарытэтнае супольніцтва — гэта, на думку ўдзельнікаў нарады, не проста фармальны акт, а міжнароднае прызнанне Беларусі. Яно адкрывае Канстытуцыйнаму суду рэспублікі магчымасць удзельнічаць ва ўсіх нарадах і канферэнцыях, вывучаць вопыт работы калег з еўрапейскіх краін, публікаваць інфармацыю аб сваёй дзейнасці і г.д.

Прадстаўнікі Беларусі атрымалі час да мая 1996 года, калі адбудзецца дзесятая канферэнцыя, плённа папрацаваць, каб на ёй заявіць аб прыняцці Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь ужо ў якасці паўнапраўнага члена аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі. Дарэчы, высокі статус канстытуцыйных судоў на кантыненце пацвярджае той факт, што прадстаўнікі дэлегацый ад 21-га Канстытуцыйнага суда Еўропы былі прыняты Прэзідэнтам Венгерскай рэспублікі.

## ПЛЮС ДЗІЦЯЧЫЯ КАЛГОТКІ

Дэфіцытныя цяпер дзіцячыя калготкі ўзяліся выпускаць магілёўскія хімікі. У аб"яднанні "Хімвалакно" створаны спецыяльны ўчастак, дзе асвоена вытворчасць гэтых тавараў. Вязальныя машыны тут пакуль працуюць у дзве змены, але з павелічэннем попыту калектыў здольны нарасціць вытворчасць. Ужо ў кастрычніку новая прадукцыя паступіць у магазіны. Яна прызначана для школьнікаў малодшых і сярэдніх класаў. Выраблябцца калготкі з бавоўны з дабаўленнем поліэфірнага валакна ўласнай вытворчасці.

Застаецца толькі дадаць, што магілёўскія хімікі імкнуцца не страціць ранейшы ўзровень вытворчасці тавараў народнага спажывання, нягледзячы на эканамічныя праблемы. Выпускаюць іх звыш сарака назваў ці, як гаварылі ў дапербудовачны час, больш чым на кожны рубель фонду заработнай платы ў вартасным выражэнні. Для рэалізацыі прадукцыі прадпрыемства мае шэсць уласных фірменных магазінаў.

## ДЗЯТЛАЎСКІЯ ГРАЗІ НЕ ГОРШЫЯ ЗА КІСЛАВОДСКІЯ

Лячэбным гразям лепшых курортаў былога Саюза не ўступаюць сапрапелевыя адклады, здабыча якіх пачалася на возеры Дзікае паблізу ад Дзятлава. Багатыя на арганічныя рэчывы і мікраэлементы, пасля адпаведнай апрацоўкі яны выкарыстоўваюцца для лячэння хвароб апорнарухальнага апарату, гінекалагічных і іншых хвароб у санаторыі "Радон", які адкрыўся нядаўна каля райцэнтра. Для іх здабычы створаны вытворчы ўчастак, выдзелены спецыяльны транспарт для перавозак. Пасля вырабу абсталявання для расфасоўкі сапрапеляў у поліэтыленавыя пакеты прапануецца наладзіць іх дастаўку ў іншыя санаторыі рэспубліканскага аб"яднання "Белміжкалгасздраўніца", у падпарадкаванні якога знаходзіцца "Радон", а таксама ў бальніцы, паліклінікі, аптэкі.

## НЕ ВАРТА СПЯШАЦЦА

Стаць акцыянерным таварыствам вырашылі ў полацкім вытворчым аб"яднананні "Шкловалакно". Але, каб у спешцы не нарабіць памылак, змяняць форму ўласнасці тут пачалі паступова. У час падрыхтоўчай работы складаецца структура, праводзяцца кансультацыі ў органах, якія кіруюць дзяржмаёмасцю, фарміруюцца праекты статутных дакументаў. Але само пытанне аб прыватызацыі будзе канчаткова вырашана толькі пасля абмеркавання яго на канферэнцыях працоўных калектываў падраздзяленняў аб"яднання.

## ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА СНІДу

Вось і да Брэсцкага раёна дакаціўся трывожны звон. Тут выяўлены першы хворы на СНІД. Дваццацішасцігадовы Н. адчуў недамаганне і здаў кроў на аналіз. Заключэнне медыкаў было сумнае: сіндром набытага імунадэфіцыту. Сам хворы адпраўлены ў Мінск, а ўрачы цяпер з апаскай чакаюць, калі да іх прыйдуць яго партнёркі або партнёры.

*БЕЛІНФАРМ.*



*Саната.*

*Фота Рыгора КАДЗЕТА.*

■ Энтузіясты

## ГАСПАДАР ЛЕСУ

**Б.І.Аксіневіч у лясной гаспадарцы раёна працуе ўжо 33 гады. Быў участковым, памочнікам ляснічага ў Шацкім лясніцтве. А ў 1972 годзе сам узначаліў Вецярэвіцкае лясніцтва. Цяпер гэты калектыў — адзін з лепшых не толькі ў лясгасе, але і ў вобласці. Слова — Браніславу Іванавічу.**

— Задаволены, што звязаў свой лёс з лясной гаспадаркай, як і тым, што здолеў прывіць любоў да прафесіі лесавода і свайму сыну Аляксандру. Ён працуе майстрам лесу ў нашым калектыве. Ну а ў тым, што сын прадоўжыць бацькаву справу, у мяне няма сумнення — сёлета ён паступіў на вучобу завочна ў Полацкі лясны тэхнікум.

Сёння быць кіраўніком калектыву вельмі і вельмі складана. Хто, як не ён, абавязаны не толькі арганізаваць рабочы працэс, але і забяспечыць людзей усімі неабходнымі сродкамі, матэрыяламі. Ва ўмовах крызісу, разбалансаванасці эканамічных і дзелавых сувязей, інфляцыі і дарагоўлі наладзіць бесперабойную вытворчасць цяжка. Кіраўніку ж трэба клапаціцца і аб тым, каб людзі пастаянна мелі занятак, які дае ім сродкі на пражыццё. Калі пэўная катэгорыя работнікаў знаходзіцца на акладзе, то ёсць і такія, хто заняты на здзельнай працы. Ім давай работу — і ўсё. І няхай у цябе, лясніччага, баліць галава, як даставіць паліўна-змазачныя матэрыялы, неабходныя запчасткі.

Нягледзячы на складанасці, выкручваемся, выконваем даведзеныя планы як па санітарнай высечцы, так і па высечках догляду, нарыхтоўцы дзелавой драўніны. Дарэчы, на ўсё гэта сёлета нам адпушчана 40 гектараў лесу, з якіх трэба нарыхтаваць 1.500 кубаметраў драўніны. А яшчэ трэба праводзіць комплекс работ па пасадцы маладога лесу. Дык вось, заклалі яго на плошчы 29 гектараў, у тым ліку на 22 гектарах — па гарэльніку. У наступным годзе ўзновім лес, які пацярпеў ад пажараў поўнасцю, засталося зрабіць гэта на 12-гектарнай плошчы.

А людзі ў нас працавітыя, улюбёныя ў сваю справу. За нашым лясніцтвам замацавана 6.200 гектараў лясных насаджэнняў. Праўда, ёсць і чыстыя ўчасткі зямлі. Абслугоўваюць масіў 12 леснікоў, абход у кожнага па 550—600 гектараў. Адзін з лепшых у нашым калектыве ляснік Аляксандр Нічыпаравіч Місько. Чалавеку ўжо за 60 гадоў, атрымлівае пенсію, але працягвае працаваць. Добра зарэкамендавалі сябе і леснікі Станіслаў Якаўлевіч Гулякевіч, Леанід Віктаравіч Парэчын.

Акрамя лесаводства займаемся і пабочнай дзейнасцю. У лясніцтве маецца пчалапасека на 160 вуллёў. Сёлета пчаласем"і далі тону мёду. Ёсць чалавек, які даглядае пасеку. Практыкуем вандроўку крылатых зборшчыкаў мёду. Для гэтай мэты непадалёку ад вёскі Вяркалы пасеялі на трохгектарнай плошчы спецыяльную меданосную культуру, якая называецца фацэлія. Вось з яе суквецця пчолы пераважна і бралі нектар.

Пакрысе займаемся і земляробствам. У прыватнасці, сёлета сеялі збожжавыя культуры на плошчы 4,5 гектара, з якіх гектар займаў ячмень, астатняе — авёс. Гэта і не выпадкова, бо ў лясніцтве трымаем чатырох коней, якіх трэба карміць. Частку зерня прададзім, частку выкарыстаем для падкормкі дзічыны ўзімку. Рыхтуем і сена, балазе палян, узлескаў, дзе расце трава, багата. І з усім гэтым аб"ёмам работ спраўляемся ўласнымі сіламі.

*Запісаў гутарку Мікалай ГРЫГАРОВІЧ.*

*Пухавіцкі раён.*

■ Статыстыка сведчыць

## ГАНАРОВАЕ ЛІДЭРСТВА

Па большасці пазіцый вытворчасці важнейшых відаў харчовых тавараў Беларусь сярод дзяржаў Садружнасці займае ганаровае першае месца. У працэнтах да аналагічнага перыяду мінулага года ў нас атрымана 84 працэнты мяса, 85 працэнтаў масла, 149 працэнтаў алею, 101 працэнт цэльнамалочнай прадукцыі і 274 працэнты цукру-пяску. Дарэчы, па трох апошніх пазіцыях гэта самы высокі паказчык. Па вытворчасці мяса лідзіруе Арменія — 121 працэнт, масла — Малдова /111 працэнтаў/.

## ЧЫМ БАГАТЫЯ, ТАМУ І РАДЫ

Паводле звестак, абнародаваных Дзяржаўным камітэтам Беларусі па статыстыцы і аналізу, самым багатым таварным запасам у розднічным гандлі з дзяржаў Садружнасці ў першым паўгоддзі бягучага года валодалі Туркменістан і Кыргызстан. У пераводзе на дні тавараабароту ён адпаведна складаў 111 і 108 дзён. У трэцяга лідэра — Таджыкістана — таварных запасаў хапіла б на 81 дзень. Беларусь па гэтаму паказчыку займае апошняе месца, нашых таварных запасаў у розднічным гандлі хапала, паводле даных на 1 ліпеня, на 35 дзён. Перадапошні паказчык у Расіі — 44 дні.

Дарэчы, у супастаўных цэнах да аналагічнага перыяду мінулага года аб"ём розднічнага тавараабароту афіцыйна зарэгістраваных прадпрыемстваў у Беларусі склаў 63,1 працэнта. А павялічыў паказчыкі мінулага года толькі Узбекістан - 107,2 працэнта.

## БЕСПРАЦОЎЕ НАБІРАЕ АБАРОТЫ

На канец ліпеня 1994 года ў нашай рэспубліцы налічвалася 90,4 тысячы беспрацоўных, сярод якіх толькі 47,1 тысячы атрымлівалі дапамогу па беспрацоўю. Дарэчы, патрэбнасць прадпрыемстваў рэспублікі ў работніках у гэтым жа перыядзе склала 21.300 чалавек, сярод іх рабочых патрабавалася 18.300. Затраты на сацыяльную падтрымку грамадзян, якія маюць патрэбу ў працаўладкаванні, — выплата дапамог, матэрыяльная дапамога, затраты на перанавучанне, грамадскія работы — склалі ў першым паўгоддзі 19.616 мільёнаў рублёў.

Дарэчы, у Азербайджане на канец аналагічнага перыяду налічвалася 22.700 беспрацоўных, у Кыргызстане — 90.400, у Малдове — 18.300, ва Узбекістане — 18.900, у Расіі — 1.324.100 чалавек.

## «БРОНЗА» АД БАХУСА

Лідэрам сярод дзяржаў СНД па вытворчасці алкагольных напіткаў у першым паўгоддзі бягучага года стала Арменія, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года іх аб"ём павялічыўся тут да 135 працэнтаў. Другое месца па данаму паказчыку заняў Туркменістан — 116 працэнтаў, Беларусь стаіць на трэцім месцы — 109 працэнтаў.

У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, аб"ём алкагольных напіткаў на Украіне — 50 працэнтаў.

## НЕХТА ГУБЛЯЕ, А ХТОСЬЦІ ЗНАХОДЗІЦЬ

У першым паўгоддзі 1994 года ў Беларусі зарэгістравана 31.257 шлюбаў, што складае 86,3 працэнта, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. У той жа час колькасць разводаў дала, хоць і невялікі, але прырост — 22.406, ці 100,03 працэнта. У Гродзенскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцях сёлета сем"яў распалася больш, а вось па паказчыках зарэгістраваных шлюбаў ні адна вобласць не дасягнула леташніх. Найменшая колькасць шлюбаў — 3.515 — зарэгістравана ў Гродзенскай вобласці, найбольшая — 5.329 — у сталіцы рэспублікі.

*БЕЛІНФАРМ.*

